4 ЧЭРВЕНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№61 (592) КОШТ СВАБОДНЫ



# Спрэчка Пушкіна са Скарынам

## Маскоўскі мэр Лужкоў адкрые ў Мінску помнік Пушкіну, створаны тут за расійскія рублі. А за помнік першадрукару Скарыну заплаціць няма каму...

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Хто з іх важнейшы для Беларусі, для яе культуры, мастацтва, літаратуры? Дзіўнае пытанне. «Ну, канешне, Пушкін!» — вырашылі гарадскія ўлады Мінска. Тым болей, што да юбілею класіка засталося... Самі ведаеце колькі дзён.**

У бліжэйшы час у Мінску будзе ўзведзены помнік слыннаму рускаму паэту. Бронзавы Аляксандр Сяргеевіч, якому ніяк не дасі яговых двухсот гадоў, будзе пазіраць на Свіслач з бронзавай жа лаўкі. Тым часам напаўадліты Францішак Скарына, хутчэй за ўсё, яшчэ гадамі будзе пыліцца недзе на вытворчых плошчах Мінскага скульптурнага камбіната.

### Страсці аб Скарыну

Помнік Скарыну рыхтаваўся даўно. Яшчэ за савецкімі часамі быў абвешчаны конкурс на лепшы праект, прайшло некалькі тураў... У выніку ў 1991 годзе перамог варыянт, прапанаваны мінскім скульптарам Алесем Дранцом. Згодна з праектам, пяціметровы бронзавы Скарына мусіў стаяць на двухметровым пастаменце. У 1994 годзе распачалася рэалізацыя задумы скульптара — выйшла нават пастанова Савета міністраў аб узвядзенні помніка на рагу вуліцы і праспекта імя першадрукара, перад галоўным будынкам Акадэміі навук.

Але тут узбунтавалася акадэмія. Па нашай інфармацыі, супраць узвядзення помніка вельмі актыўна выступіў прэзідэнт АН акадэмік Яўген Вайтовіч. Яму не падабаецца першадрукар, бо, маўляў, Скарына ўвогуле не навуковец, а проста раскручаная фігура. Такое меркаванне ён аднойчы выказаў пры сведках.

Працяг на стар.3



Фота IREX/ProMedia

Падобна таму як гэтыя рабочы і паэтэса апынуліся на даху, так ставяцца ў нас помнікі гістарычным асобам

ПОШТА

# Врачи говорили: все они не выживут...

*Уважаемая редакция!*

То, что произошло у станции метро «Немига» — это ужасно. Погибло множество людей, большинство из которых были еще дети. И это горе для всех нас. Но больше всего меня поразила халатность некоторых сотрудников медперсонала.

Один мой знакомый, его зовут Саша, оказался тогда в самой гуще событий. Ему удалось спасти своего друга, а также еще двух незнакомых девушек. Их бездыханные тела он вытащил прямо из того ада и положил на траву. Пульс их бился, но дыхания не было. Врачи, стоявшие рядом, говорили: «все, они не выживут, еще пять минут, и им конец». Саша не растерялся. Сам занимается спортом, знает, как поступать в подобных ситуациях, оказал необходимую помощь. Он сделал им искусственное дыхание, и они ожили. Девушек удалось спасти. После он и его друзья «накинулись» на тех врачей, ругались с ними. И таких моментов было немало.

Друг, которого Саша вытащил, сейчас в больнице. Саша каждый день его навещает. Также он вспоминает, как из толпы, уцепившись ему за локоть, пытались вырваться девушка и парень. Вытащить их ему не удалось. Видел, как их «засосала» толпа, и, возможно, они тоже погибли. Вот я и хочу спросить, о каком профессионализме может идти речь, когда медики так себя повели? Или «медперсонал делал все, что смог», как сообщило БТ. Конечно, не хотелось бы в чем-то кого-то обвинять, но когда происходят такие случаи, мы должны доносить правду до людей.

Мои искренние соболезнования родным и близким, чьи семьи затронула эта ужасная трагедия.

*С уважением,*
*Владимир ЛЕВШИЦКИЙ*

Продолжение темы на стр.7



Фота IREX/ProMedia

Похороны Светланы Лобан и Людмилы Шкурдзе

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Застрэліўся пракурор

У ноч з 30 на 31 траўня нечакана для саслужыўцаў скончыў жыццё самагубствам пракурор аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Рэспубліканскай пракуратуры Васіль Іваненка.

Людзі, якія ведалі пракурора, сцвярджаюць, што апошнім часам Іваненка вельмі пакутаваў ад безадказнага кахання да маладой жанчыны, што і прывяло да трагічнага сыходу.

***Аляксей ШЫДЛОЎСКІ***

### Беларускаму класу быць!

У НАВІНАХ за 19 траўня мы пісалі пра становішча, у якім апынуўся 9«А» клас СШ N191. Гэты беларускі клас планавалася расфармаваць. На апошнім званку дырэктар школы Галіна Голеш заявіла: беларускаму класу — быць. Разам з гэтым НАВІНЫ выказваюць глыбокае спачуванне з нагоды гібелі ў трагедыі на Нямізе трох вучаніц гэтай школы.

***Алесь ГУРЫНОВІЧ***

### «Народная воля» ўступіла ў ТБМ

Калектыў незалежнай газеты «Народная воля» ў колькасці 20 чалавек — сярод іх такія асобы, як Іосіф Сярэдзіч і Валерый Шчукін уступілі ў Таварыства беларускай мовы. Старшынёй суполкі з'яўляецца Святлана Кліменценка. Напэўна, не трэба казаць, які ўнёсак робіць «Народная воля» ў абарону роднай мовы.

***Алесь ГУРЫНОВІЧ***

НАДВОР'Е




**5 чэрвеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер няўстойлівы, слабы, пры навальніцах парывы да 15–20 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 9–14. У нядзелю, **6 чэрвеня**, пераважна без ападкаў, вецер паўднёвы, слабы.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**430 000**

ПЯТНІЦА з Мікалаем ХАЛЕЗІНЫМ

## Циники

Город полнится слухами. Трагедия обрастает мифами и вопросами без ответов. Власти бесстыдно докладывают об успехах в деле погребения усопших. В интимные семейные сцены прощания с погибшими вторглись сытые чиновники из администрации президента и крепкие депутаты назначенного парламента. Цинизм стал фирменным знаком власти.

Что говорят люди на улицах, в транспорте, на кухнях? Говорят о том, что в толпе задавили ребенка, но власти это скрыли. Говорят, что в реанимациях умирают люди из рокового подземного перехода, о которых ничего не сообщают. Говорят, что деньги, которые собирают для помощи семьям погибших, все равно не дойдут до адресатов, а будут разворованы. Обо всем этом говорит страна, но власти не слышат. Или не хотят слышать.

Около подземного перехода на Немиге каждый день собирается народ — человек сто-двести. Среди них человек пятьдесят — сотрудники компетентных органов. Они не скорбят о погибших, не обсуждают причин трагедии. Они слушают. Люди чувствуют их присутствие и переходят на шепот. Но когда до людей в штатском доходит, что речь идет о виновных в произошедшей драме, они громко и отчетливо говорят: «во всем виноват дождь». Это называется «снимать возникшее напряжение». Но со всей страны напряжение не снимешь. И к каждому сомневающемуся чекиста не приставишь.

Сегодня те, кто находится у власти, не скорбят — они боятся. Боятся потерять эту самую власть. Оттого и твердят дурацкие фразы: «виноват дождь», «стихия унесла молодые жизни», «никто не виноват». Подал в отставку председатель горисполкома Ермошин. Хватило совести. У президента не хватило — не отпустил. Отпустить — значит признать, что городские власти ответственны за смерти 52 молодых людей. Генерал Тарлецкий в отставку не собрался, отгородившись от ответственности погибшими ребятами-милиционерами. «Они до конца выполняли свой долг». Нет, они выполняли глупые приказы. Приказы непрофессиональных людей, занимающих большие посты.

После трагедии известная газета «Советская Б» вышла с фотографией на первой полосе, запечатлевшей белорусского президента входящим в фатальный подземный переход. Под фотографией огромная подпись — «в страну пришло горе». Да, пришло. Пять лет назад.

# Спецслужбы «працуюць» на месцы трагедыі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У вечары 1 чэрвеня дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання Паўла Знаўца, які прыйшоў ускласці кветкі да месца трагедыі ў пераходзе станцыі метро «Няміга», схапілі людзі ў цывільным, якія перад гэтым, седзячы на прыступках побач з блізкімі ахвяраў, рабілі жалобны выгляд.

Аўтар гэтых радкоў ішоў разам са Знаўцом на станцыю метро і стаўся непасрэдным сведкам падзеяў. Усё было вельмі нечакана, і пакуль я зразумеў, што адбываецца, Паўла з засціснутым ротам адвалаклі на добры дзесятак метраў. Толькі тады людзі ў цывільным, якія пазней назвалі сябе супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Цэнтральнага РАУСа г.Мінска, зразумелі, што дэпутат не адзін, і крыху паслабілі «хватку».

Праз пяць хвілінаў дэпутат быў перададзены ў рукі ўзмоцненага нарада міліцыі, які павёз Знаўца ў невядомым накірунку. Толькі на наступны дзень сляды Паўла ўдалося знайсці ў пракуратуры Цэнтральнага раёна, дзе следчы Круглікаў праводзіў допыт дэпутата па ўзбуджанай крымінальнай справе, звязанай з адбыўшыміся 16 траўня выбарамі прэзідэнта. Пасля гэтага Знаўца яшчэ амаль суткі пратрымалі ў зняволенні, перш чым мы атрымалі звесткі з дакладных крыніцаў, што ён адпушчаны і зараз знаходзіцца «на нелегальным становішчы». Інакш кажучы, хаваецца ад улады.

Становіцца зразумелым, чаму ў пераходзе, дзе адбылася трагедыя, зараз столькі «ціхароў» (замаскаваных супрацоўнікаў міліцыі). Усе асобы беларускай апазіцыі ў першыя дні пасля трагедыі прыходзілі пакласці кветкі ў памяць ахвяраў. Такой магчымасці адсачыць кожнага з апазіцыянераў улады проста не маглі прапусціць. ■

# Фарс з адстаўкай Ярмошына

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Пазаўчора старшыня Мінскага гарвыканкама Уладзімір Ярмошын падаваў прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку заяву аб адстаўцы. Ярмошын напісаў, што адчувае адказнасць за трагедыю, якая адбылася ў Мінску 30 траўня, і гатовы вызваліць сваю пасаду. Прэзідэнт прашэнне Ярмошына не задаволіў.**



● Лукашэнка і Ярмошын на чарговым свяце

Нагадаем, што старшынёй гарвыканкама Мінска Ярмошына прызначаў менавіта Лукашэнка. Было гэта ў 1995 годзе. Ярмошын нязменна хадзіў у прэзідэнцкіх любімчыках, нягледзячы на тое, што за час ягонага праўлення ў сталіцы краіны «ЧП» хапала. Узгадаем «Чарнобыльскі шлях» 1996 года са збіццём міліцыяй дзесяткаў дэманстрантаў і проста мінакоў, забастоўку супрацоўнікаў метро, якая на два дні паралізавала ўвесь горад. А рэгулярныя правалы ў забеспячэнні сталіцы прадуктамі харчавання — то каўбасамі, то яйкамі, то цукрам? Аднак свайго пратэжэ беларускі прэзідэнт нязменна абараняў. Калі ў бок Ярмошына з вуснаў Лукашэнкі і гучала крытыка, то вельмі дазіраваная, якая не прыводзіла да аргвысноваў.

Старшыня сталічнага гарвыканкама адказваў на такую міласць кіраўніка краіны надзвычайнай палітычнай адказнасцю. Добра вядомыя намаганні сталічных уладаў па падрыхтоўцы і паспяховым правядзенні ў Мінску рэферэндумаў 1995, 1996 гадоў, па стварэнні шматлікіх перашкодаў апазіцыі ды іншыя геройствы ў справе навядзення ў горадзе парадку і дысцыпліны. Вось толькі парадку ў Мінску, асабліва на гарадскіх святах, станавілася ўсё менш. Падчас розных фестываляў піва, дней яднання з Расіяй ды іншых гульбішчаў у самых людных месцах Мінска танна прадавалі спіртное, а гарадскія ўлады гэтаму ніяк не працівіліся. Наадварот, спрыялі. Леташні дзень горада стаў узорам таго, як можна пасталяць «на вушы» і напаіць увесь Мінск.

Рахунак за такую палітыку прыйшлося аплаціць 30 траўня. Ахвярам, параненым, родным пацярпелых, усім нам, у тым ліку і ўладзе. Да гонару спадара Ярмошына, ён заявіў, што варты адстаўкі. Праўда, заяўлена гэта было ў стылі чыста чыноўніцкім. Не публічна, не з экрана тэлебачання, а ў паперы, якую ніхто, акрамя прэзідэнта, не бачыў. Не дзіва, што Лукашэнка гэтую заяву Ярмошына не задаволіў. Бо тады яму прыйшлося б самому павініцца перад грамадскасцю, прызнаць свае памылкі, а ён на гэта ніколі не быў здольны. Вось і атрымаўся з боку Ярмошына ці то мужны крок, ці то фарс. Фактычна ён схаваўся за спіну прэзідэнта.

А жыхары Мінска з гэтай гісторыі аб уяўнай адстаўцы старшыні гарвыканкама могуць зрабіць адзіную выснову: зараз яны пазбаўлены магчымасці абіраць мэра, таму і не могуць адправіць яго ў адстаўку. Між тым, толькі жыхары Мінска павінны вырашаць, каму можна даверыць не проста гарадское кіраванне, а свае жыцці. ■

# У Мінск прыехаў Сцяпашын

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

Сёння ў Мінску пачалося паседжанне Савета кіраўнікоў урадаў краінаў СНД. Прэм'еры збіраюцца абмеркаваць стварэнне ўнутры СНД зонаў свабоднага гандлю і іншыя пытанні. Акрамя ўдзелу ў саміце, С.Сцяпашын сустрэнецца з Аляксандрам Лукашэнкам і Сяргеем Лінгам. Кола пытанняў, якія расійскі прэм'ер збіраецца абмеркаваць з кіраўніцтвам Беларусі, трымаецца ў сакрэце. Дарэчы, папярэднія расійскія прэм'еры Кірыенка і Прымакоў свой першы візіт у якасці кіраўніка ўрада здзяйснялі менавіта ў Беларусь. Чым скончылася іхняя кар'ера, вядома. А што чакае Сцяпашына? ■

# Список пунктов МГОРП «Белсоюзпечать», где принимается подписка «до востребования»

1. Ул.Володарского, 22. Магазин № 14
2. Ул.Есенина, 16. Магазин № 20
3. Ул.Жилуновича, 31. Магазин № 24
4. Ул.Жуковского, 5, корп.1. Октябрьский пункт подписки
5. Ул.Жуковского, 5. Магазин № 1
6. Ул.Я.Коласа, 67. Магазин № 7
7. Ул.Калиновского, 82, корп.2. Магазин № 13
8. Ул.Кижеватова, 80. Магазин № 12
9. Ул.Кошевого, 8. Партизанский пункт подписки
10. Ул.Ленина, 15. Магазин № 4
11. Пр.Машерова, 51, корп.1. Магазин № 19
12. Пр.Машерова, 31 (г-ца «Планета»). Киоск № 262
13. Пр.Машерова, 19 (г-ца «Юбилейная»). Киоск № 78
14. Ул.Некрасова, 35. Магазин № 17
15. Площадь Победы (подземный переход). Магазин № 18
16. Площадь Притыцкого (подземный переход). Магазин № 21
17. Площадь Я.Коласа (переход около ЦУМа). Киоск № 136
18. Пр.Пушкина, 77. Магазин № 11
19. Пр.Рокоссовского, 140. Магазин № 9
20. Ул.Романовская Слобода, 9. Фрунзенский пункт подписки
21. Ул.Славинского, 39. Магазин № 23
22. Пр.Скорины, 11 (г-ца «Минск»). Киоск № 34
23. Пр.Скорины, 44. Магазин № 2
24. Пр.Скорины, 76. Магазин № 3
25. Пр.Скорины, 113. Первомайский пункт подписки
26. Ул.Сторожевская, 15 (г-ца «Беларусь»). Киоск № 187
27. Ул.Сурганова, 40. Магазин № 8
28. Ул.М.Танка, 16. Магазин № 15
29. Ул.Филимонова, 1. Магазин № 6
30. Ул.В.Хоружей, 24. Магазин № 16

ЦЫТАТА НУМАРА

**Я всегда говорил, что главное — это безопасность граждан. Не получилось...**

*Владимир ЕРМОШИН*

*Из выступления на пресс-конференции 1 июня 1999г.*

# Акт вандалізму ў Брэсце

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У ноч на 31 траўня ў Брэсце на помніку вязням брэсцкага гета, якіх расстралялі ў 1942 годзе, з'явілася намаляваная крэйдай свастыка. Гэта ўжо другі за няпоўны год выпадак вандалізму ў дачыненні да гэтага помніка. Год таму свастыка была намаляваная аэразольнай фарбай. Тады вінаватага знайшлі, ім быў 15-гадовы вучань з сярэдняй школы N 20 горада Мінска. Крымінальную справу вырашылі не ўзбуджаць, а школа, у якой вучыцца хлопец, узяла шэфства над помнікам.

На гэты раз РАУС Ленінскага раёна горада Брэста ўзбудзіў крымінальную справу і вядзе пошук злачынцы. ■

# Грамадскі камітэт шукае падтрымкі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Грамадскі камітэт па расследванні прычынаў гібелі людзей у пераходзе станцыі метро «Няміга» даручыў праваабарончаму цэнтру «Вясна-96» стаць працоўным органам камітэта.

З гэтай нагоды праваабарончы цэнтр звяртаецца да ўсіх юрыстаў, урачоў, супрацоўнікаў міліцыі, у сіх, хто меў дачыненне да арганізацыі мерапрыемства, даць інфармацыю, свае парады і рэкамендацыі па прадухіленні падобных няшчасных выпадкаў.

Таксама «Вясна-96» заклікае ўсіх журналістаў, якія апытвалі сведак трагедыі і мелі стасункі з прадстаўнікамі ўлады адразу пасля трагедыі, прадставіць камітэту ўсе факты для глыбокага і ўсебаковага расследвання трагедыі.

Адрас і кантактны тэлефон: 220013 г.Мінск, п/с 49, тэл. 239-31-17.

# БХК абвінавачвае ў трагедыі ўладу

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

На спецыяльна скліканай прэс-канферэнцыі кіраўніцтва Беларускага Хельсінкскага Камітэта ў асобах Гары Паганяйлы, Святланы Мартоўскай і Таццяны Процька падвялі вынікі свайго аналізу трагедыі, якая адбылася ўвечары 30 траўня ў падземным пераходзе станцыі метро «Няміга».

Па словах Гары Паганяйла, мерапрыемства, якое праводзіла радыё «Мір», хоць і мела санкцыю Мінгарвыканкама, але ж ніяк тымі ж гарадскімі ўладамі не было падрыхтаванае. «Павінны былі быць перакрытыя ўсе бліжэйшыя падземныя пераходы, спынены рух, а цягнікі метро не павінны былі спыняцца на станцыі «Няміга», — кажа сп.Паганяйла.

Святлана Мартоўская зрабіла афіцыйную заяву БХК: «Мы абвінавачваем у трагедыі толькі ўлады горада, якія ў сілу непрафесіяналізму не здольныя наладзіць нармальнае правядзенне мерапрыемстваў. Толькі ўлада адказная перад бацькамі ахвяраў».

БХК таксама заявіў аб стварэнні сваёй камісіі па расследванні прычынаў трагедыі. ■

# Могилевчанкам нечем кормить детей

Валерий ЩУКИН

В среду 2 июня токари-револьверщицы Могилевского автомобильного завода, придя как обычно в 7.20 к своим станкам, к работе не приступили, а горячо заговорили о детях, оставшихся в это утро голодными. Причина банальна — цены в магазинах уже июньские, а заводчанки не получали зарплату еще за апрель. Мужская часть коллектива остаться в стороне не могла, и к 8 часам утра данный вопрос обсуждали уже около 300 рабочих цехов первого блока МоАЗ.

Руководителей завода участники стихийного внутризаводского митинга так и не дождались. И лишь когда председатель свободного профсоюза работников МоАЗ Игорь Бугров связался с администрацией Октябрьского района Могилева и предупредил, что движение рабочих к заводоуправлению повлечет перекрытие улиц и остановку общественного транспорта (административный корпус находится за пределами заводской территории), перед собравшимися появилась заместитель директора МоАЗ по экономике Н.В.Ануприенко и объявила о выдаче аванса в размере 2 миллионов 700 тысяч рублей на человека.

Задержку выплаты заработной платы администрация завода объясняет решением Нацбанка, запретившего разовые перечисления более одного миллиарда рублей. Месячный же фонд заработной платы на МоАЗ равен 15 миллиардам. ■

# Зноў падаражэла гарэлка

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У чацвёрты раз з пачатку года павышаныя кошты на белую гарэлку. Павышэнне склала 10 працэнтаў на гарэлку ў звычайных бутэльках і 15 працэнтаў на гарэлку ў спецыялізаванай і экспартнай тары. Так, бутэлька гарэлкі «Крышталь 100», адной з найбольш папулярных у народзе, цяпер каштуе 292 тысячы рублёў замест ранейшых 256 тысяч. ■

# Ахвяраў трагедыі на Нямізе, магчыма, больш

Дзяніс НОСАЎ

**На вялікі жаль, ёсць падставы думаць, што колькасць ахвяраў была вышэйшая за афіцыйна абвешчаную. Пераконваюць у гэтым размовы з роднымі і сябрамі нябожчыкаў і аналіз надпісаў, якія пакідаюць людзі ў пераходзе на Нямізе.**

Безумоўна, нельга адразу браць на веру словы відавочцаў, што ахвяраў было каля сотні, і пераказ словаў чыйсьці знаёмай медсястры, што яна бачыла на назе загінулага нумар ці то 86, ці то 88. Але, напэўна, ніхто не напіша побач з імем жывых сябра ці сяброўкі, а тым больш роднага чалавека словы накшталт «цябе больш няма з намі».

Ёсць на беларускай «сцяне плачу» і імёны жывых — гэта подпісы пад словамі жалобы. Іх адрозніць нескладана. Складанасць у тым, што часта пішуць толькі імёны загінулых блізкіх, без прозвішчаў. Імёны могуць паўтарацца шмат разоў. Калі нават лічыць усе аднолькавыя імёны за імя аднаго чалавека, не зважаць на невялікія разыходжанні ў прозвішчах (напрыклад, Алечка Новікава — на сцяне і Аляўціна Навакоўская — у афіцыйным спісе, магчыма, адзін чалавек, а Вова — гэта міліцыянт Уладзімір Говін) — усё ж карціна атрымліваецца цьмяная. Любы, хто быў ці будзе на крывавай лесвіцы, можа ўбачыць шмат разоў напісанае імя Даша, два разы пазначаны Вадзім — гэтых імёнаў няма ў афіцыйным спісе. (Сярод Юляў указваецца 16-гадовая, а Юлі Жолабавай — дзевятнаццаць.) Дарэчы, тыя, хто застаўся ў жывых, самі склалі на сценах пераходу спісы ахвяраў. Працей даследаваць іх, тым больш што верагоднасць паўтору імені аднаго чалавека ў адным слупку малая. Адзін з гэтых жалобных спісаў пачынаецца з імені Алевтина (16 год — ёсць у афіцыйным, сярод іншых імёнаў), а вось імёнаў Косця, Міша ў афіцыйным няма. Яшчэ ў гэтым спісе тры Сашы, Алекс і Лёша — у афіцыйным толькі тры Аляксандры, ніводнай Аляксандры і ніводнага Аляксея.

Ёсць у пераходзе спіс, які, відаць, складзены святарамі (названы «За упокой»), імёны напісаны на стараславянскі лад). Акрамя некаторых ужо ўзгаданых імёнаў, тут ёсць Валерыя, Кацярына, Алексія (магчыма, імя запісанае ў родным склоне, гэта значыць Аляксей). Але ў іншым спісе таксама сустракаецца менавіта Алексія. Тры разы запар напісана «Димитрий», што, на маю думку, выключае магчымасць трайнога паўтору — але афіцыйна загінуў адзін Дзімітрый. У спісе тры Аляксандры і яшчэ адзін кімсьці дапісаны — ізноў чатыры супраць трох «афіцыйных»? Яшчэ дапісаныя да гэтага і сустракаюцца ў іншых спісах імёны Крысціна, Алег, Наташа. Гэта ўсё новыя для афіцыйнага спісу імёны...

Мне не ўдалося запісаць яшчэ адно імя: у сераду дзве жанчыны, напэўна, маці і дачка, прынеслі на Нямігу кветкі: аказалася, што малодшая — на выгляд каля 21 года — страціла тут сына...

У выніку, як гэта ні балюча, прыходзіцца дадаць да «чорнага спісу» наступныя імёны: Дар'я, Вадзім, Юлія, Канстанцін, Міхаіл, Аляксей, Валерыя, Кацярына, Крысціна, Алег, Наташа, зусім маленькі хлопчык.., вельмі верагодныя яшчэ Дзімітрый, Дзімітрый, Алексія. Яшчэ 12-15 ахвяраў, чамусьці не трапіўшых у афіцыйны спіс... Аўтару вядомыя некаторыя прозвішчы. Менавіта таму я і ўзяўся за гэтую справу, бо не знайшоў іх сярод надрукаваных. Але блізкія адной з загінулых вельмі прасілі не публікаваць яе прозвішча, таму пакуль не раблю гэтага і з астатнімі.

Аўтар просіць прабачэння ва ўсіх, чые блізкія сталі ахвярамі трагедыі на Нямізе, за дакрананне да іхняга болю, і будзе спадзявацца, што ён памыляецца ў сваіх сумных развагах і падліках. ■




Фота IREX/ProMedia

● Сцяна плачу

## КАМЕНТАР навінаў

Адначасная смерць 52-х чалавек на Нямізе не можа не асэнсоўвацца людзьмі. І сёння, і праз гады будуць прыцягваць увагу псіхалагічныя падставы і духоўныя траўмы гэтай трагедыі.

Зразумела, што ў тых надзвычайных абставінах, калі разбіралі параненых ад памерлых, калі жывых везлі ў шпіталі, калі не ведалі імёнаў загінулых, маглі мець месца розныя недарэчнасці, блытаніна, парушэнне фармальных працэдураў.

Магло стацца, што некаторыя ахвяры трагедыі не патрапілі ў агульны спіс. Эмацыянальны стрэс, які перажывае зараз нашае грамадства, безумоўна, адбіваецца на рэакцыях людзей, на іх размовах, на пагалосках, на спачувальных настроях, на некралогах, якія людзі пішуць на «сцяне плачу». Шмат людзей пазначаюць тут свой смутак па аднятых смерцю.

Рэдакцыя звяртаецца да ўсіх родных і блізкіх тых людзей, што загінулі на Нямізе, да іхніх сяброў, аднакласнікаў, калегаў: калі вы ведаеце імёны ахвяраў, якіх няма ў надрукаваным газетамі спісе, паведамляйце нам.

Ніхто не мусіць быць забыты.

## ГОЛАС ВУЛІЦЫ

**Должен ли кто-то нести ответственность за трагедию, которая произошла в подземном переходе метро «Немига»?**



**Игорь ПРОХОРОВ, юрист**

— Ну, особо отвечать-то и некому. Вроде же говорят, что организаторы соблюли все условия, все меры предосторожности. Виновата психология толпы, паника, которая ею овладела.



**Иван МОНТИК, учащийся колледжа**

— Я думаю, что виновата, во-первых, наша система. Людей воспитывают, как толпу, и вот наглядный итог. Если бы люди наши умели хоть чуточку думать, ничего бы не произошло. Да еще и организаторы праздника облажались.



**Дарья, медсестра**

— Никто не виноват, и правительство тоже не виновато. Просто стечение обстоятельств. Это все настолько нелепо, жутко, я до сих пор не могу все это как-то осознать. Очень все странно.



**Владимир ТАРАСОВ, доктор эконом. наук**

— Создана комиссия, пусть разбираются. Главное, чтобы объективно разобрались. То, что произошло, ни в какие рамки не лезет. На ровном месте 52 человека задушили. Меня удивляют слова Лукашенко: «виноватых искать не надо». Так что, Бог, что ли, виноват?



**Людмила КОРОЛЕВА, студентка**

— Не виноваты ни организаторы, ни милиция. Просто дождь такой. А праздники быть должны, нельзя же из-за единичного случая праздники отменять.

**Опрашивали Алексей ШИДЛОВСКИЙ, Владимир ШЛОПАК (фото)**

# Спрэчка Пушкіна са Скарынам

## Маскоўскі мэр Лужкоў адкрые ў Мінску помнік Пушкіну, створаны тут за расійскія рублі. А за помнік першадрукару Скарыну заплаціць няма каму...

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

*Працяг. Пачатак на стар.1*

За Вайтовічам пачалі пратэставаць і іншыя. На думку крытыкаў, бронзавы Скарына будзе звонку закрываць ад глядацкага вока будынак Акадэміі навук, а для тых, хто з таго будынка выходзіць, — закрываць «відарысную перспектыву». Карацей, «прывязка помніка Ф.Скарыну да будынка АН не мае абгрунтаваных падставаў».

На баку праціўнікаў Скарыны выступіў Аляксандр Лукашэнка. Ён, між іншым, зазначыў, што галоўны праспект краіны мусіў бы звацца праспектам Перамогі ці Незалежнасці, але ніяк не імем першадрукара.

Пару месяцаў таму мінскія ўлады цішком вярнулі вуліцы Ф.Скарыны старую назву — Акадэмічная. Дом N 1 па вуліцы Скарыны/Акадэмічнай — гэта Акадэмія навук. І на тым месцы, дзе на гэтым будынку раней вісела мемарыяльная шыльда першаасветніку, засталася толькі брудная пляма. Такім чынам, Яўген Вайтовіч і тут пазбавіўся ненавіснай постаці.

Але вернемся да помніка Скарыну. Як і трэба было чакаць, пытанне пра ўзвядзенне помніка побач з Акадэміяй навук больш не ставіцца. Замест гэтага першадрукару было прапанавана «прапісацца» на пустэчы на праспекце яго імя, але не ў цэнтры, а ў мікрараёне Усход — непадалёк ад вуліцы Філімонава. Там калі-небудзь (!) будзе ўзведзены новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — і перад ім будзе ўзвышацца постаць Францішка Скарыны.

Як нам заявіў намеснік міністра культуры Валерый Гедройц, магчыма, што помнік будзе чакаць, пакуль не пабудуюць новы корпус Нацыянальнай бібліятэкі, — а да гэтага часу застанецца недзе далёка ад людскіх вачэй, у якіх-небудзь сховішчах ці запасніках. Але, па словах В.Гедройца, «фінансаванне помніка не спыненае».

Дырэктар Мінскага скульптурнага камбіната Іосіф Літвіновіч абвяргае намесніка міністра: «Дагэтуль за адліўку помніка нам не заплацілі 5 мільярдаў рублёў. А няма грошай — няма і выніку. Грошай, што нам выдзелілі, хапіла недзе на палову Скарыны. Гэта выбітны чалавек, і шкада, што эпапея з помнікам яму ніяк не скончыцца».

Як нам удалося дазнацца, тыя пяць мільярдаў, што прызначаліся на Скарыну, пайшлі на добраўпарадкаванне тэрыторыі ў раёне гатэля «Беларусь» — пляцоўкі для бронзавага Пушкіна.

### Мінскі Пушкін

Пушкіна Мінску падарыў мэр Масквы Юрый Лужкоў. І нават не скульптуру, а толькі яе праект — работу маскоўскіх скульптара Юрыя Арэхава і архітэктара Юрыя Грыгор'ева. Беларусы з задавальненнем узялі помнік — як кажуць у народзе, «на халяву і воцат салодкі», а тут — сам Аляксандр Сяргеевіч. Тым болей, што ўвесь гэты, 1999 год прэзідэнт абвясціў годам Пушкіна.

Масквічы разам з нашымі спецыялістамі вырашылі «пасадзіць» Пушкіна ў вельмі прыгожым месцы: у раёне вуліцаў Старажоўскай і Камуністычнай, ля набярэжнай Свіслачы. Добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол помніка мінскія ўлады ўзялі на сябе — са «скарынаўскіх» грошай.

Выраблялі помнік у Мінску, на тым самым скульптурным камбінаце, дзе так і не дарабілі першадрукара. Па словах дырэктара Іосіфа Літвіновіча, гэта была вельмі прыбытковая замова, да таго ж аплачаная ў расійскіх рублях. Калі перавесці тую суму на беларускія грошы, атрымаецца 4 мільярды 128 мільёнаў.

Заказчыкам помніка (і, адпаведна, плацельшчыкам) выступае Фонд садзейнічання скульптарам Расіі «Скульптар», дзе старшыня прэзідыума — аўтар Пушкіна Юрый Арэхаў. Так што беларускія грошы на саму скульптуру траціць не давялося, за ўсё заплацілі «маскоўскія таварышы», яшчэ і нашым далі зарабіць.

Помнік Пушкіну ўжо амаль гатовы, аўтарам засталося толькі ўнесці маленькія карэктывы. Урачыстае адкрыццё манумента прымеркаванае да прыезду Лужкова ў Мінск. А вось дакладная дата візіту дагэтуль невядомая. Яна ўжо некалькі разоў змянялася: то 3 чэрвеня, то 6, цяпер вось — 11. Можа, зменіцца зноў. Апроч помніка, у Мінску будзе адкрытая мемарыяльная шыльда на праспекце Пушкіна.

Як бачым, да 200-гадовага юбілею слыннага, але ўсё ж расійскага паэта мы атрымалі помнік. Няхай сабе і ў падарунак. А вось свайго, беларускага першадрукара, асветніка, філосафа, якому споўнілася 510, ніяк не можам дарабіць — ужо больш за пяць гадоў. ■

**Памяць XX стагоддзя 1906**

# «Куды ідзеш?»

**Міхал МАТУШ**

«Куды ідзеш?» — пытанне, зададзенае Богам апосталу Пятру, калі той выйшаў за вароты Рыма падчас ганенняў на хрысціянаў, узяў назвай для рамана на гэты вядомы сюжэт Генрык Сянкевіч. Раман быў адзначаны Нобелеўскай прэміяй, а наступны — 1906 год — адгукнуўся пісьменніку сусветнай цікавасцю да ягонай творчасці, да гістарычнай эпапеі, якую склалі раманы «Агнём і мечам», «Пан Валадыеўскі», «Патоп».

Заходні чытач успрымаў змест эпапеі як нешта экзатычнае, цікавае напружаным сюжэтам, мноствам прыгодаў, незвычайнымі тыпамі. Наш тагачасны чытач успрымаў кнігі Сянкевіча інакш. Бясспрэчна, што грамадская ўвага да творчасці пісьменніка паўплывала на станаўленне беларускай свядомасці. Бо многія падзеі памянёных раманаў адбываліся на Беларусі, а галоўныя героі мелі рэальныя прататыпы сярод беларускай шляхты. Жадаючы ўзвысіць сэрцы палякаў, абудзіць народны патрыятызм, памяць пра магутную Рэч Паспалітую, падзеленую «каранаванымі разбойнікамі» — Расіяй, Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй, Сянкевіч абудзіў і беларускую памяць, прымусіўшы задумацца над сваёй старасветчынай.

Гэта не было выпадковай з'явай. Па бацькоўскай лініі Генрык Сянкевіч паходзіў з беларускіх татараў, што знайшлі прытулак на Беларусі пры князі Вітаўту. У XVIII стагоддзі сям'я перайшла з мусульманства ў каталіцтва, але, зразумела, фамільная памяць утрымоўвала легенды з жыцця продкаў. У апавяданні «Селім



Генрык Сянкевіч

Мірза» ўзгадваецца родзіч Сянкевіча, які быў палкоўнікам пяцігорскага палка лёгкай конніцы. А гэты полк стала кватараваў на Піншчыне і фармаваўся з беларускай шляхты. Маці Сянкевіча паходзіла з беларускага шляхецкага роду Цецішоўскіх, паяднанага з мноствам знакамітых фаміліяў на Беларусі і Літве.

У сюжэт «Патопу» пакладзена рэальныя падзеі і звесткі, якія Сянкевіч адшукаў у архіве роду Білевічаў. Нездарма галоўная гераіня рамана носіць імя Аляксандры Білевіч. Галоўны герой «Патопу» Анджэй Кміціц меў прататыпам аршанскага войта Самуэля Кміціча, унука вядомага ў беларускай гісторыі палітычнага дзеяча, аршанскага старасты, намінальнага смаленскага ваяводы Філона Кміты-Чарнабыльскага. Літаратурны персанаж істотна рамантызаваны, ён хоць і робіць мноства благіх учынкаў, але з маладзецкай пыхі. Рэальны Кміціч, як засведчана дакументамі, быў чалавек грубы, бессаромны, абдзіраў і абражаў аршанцаў, і за свае грахі быў абвешчаны банітай (выгнаннікам). Выратавала Самуэля вайна з Масквой і шведамі. За вайсковыя заслугі Кміціча вызвалілі ад ганебнага прысуду, ён даслужыўся да высокага чыну вялікага стражніка літоўскага (сённяшняй мовай — начальнік памежных аддзелаў на паўднёвай мяжы дзяржавы).

Уздзеянне фамільнай памяці праявілася і ў першым псеўданіме Сянкевіча — «Літвос», пад якім ён выступаў у газеце. Жыццё раз за разам наварочала яго на шчыльныя сувязі з радзімай дзядоў. Яго першая жонка Марыя Шаткевіч паходзіла з беларускага роду. Да старадаўняй навагардскай шляхецкай фаміліі належала Марыя Валадковіч, з якой Сянкевіч пабраўся шлюбам у 1893 годзе. Не мае значэння, што гэты шлюб не перажыў кароткага вясельнага падарожжа ў Італію. Чацвёрты раз Сянкевіч ажаніўся на Марыі Бабскай, сваёй пляменніцы. Ён адзіны з пісьменнікаў, у якога чатыры жонкі мелі адно імя.

На пачатку стагоддзя Сянкевіч быў адным з найбольш вядомых пісьменнікаў. Яго раман «Куды ідзеш?» перакладзены на дзесяткі моваў, яшчэ пры жыцці аўтара яго экранізавалі ў Францыі і Італіі, на яго сюжэт была напісаная і пастаўленая опера.

У кантэксце тагачасных настрояў трактавалася назва рамана «Куды ідзеш?». Рэвалюцыянеры ўспрымалі гэтае пытанне як рэвалюцыйнае, кансерватары — як папераджальнае, неангажаваны партыямі чытач — як голас сумлення, які чуецца ў хвіліну, якая патрабуе адказнага рашэння. Шмат людзей, якія прыйшлі да ідэі беларускага адраджэння, якія потым дзейнічалі дзеля стварэння беларускай нацыянальнай дзяржавы, падтрымалі БНР, пачатковы імпульс для сваіх духоўных пошукаў атрымалі ад рамана Сянкевіча. Можа ў 1906 годзе яны ўпершыню задумаліся над пытаннямі, куды ідзе заняволеная Беларусь, чаму беларусы страцілі памяць, чаму не гартуюць свой дух і сваю веру ў радзіму, хто паслухаўся ёй, калі рабіць выбар, што не чуеш павіслага над тваёй галавой божага пытання «Куды ідзеш?» ■



Харугва Кміціча прыйшла да нас з «Патопу»

**КАНФЕСІІ**

# На спатканне з Рымскім Папам

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**Рымскі Папа Ян Павел II правядзе з 5 па 17 чэрвеня паломніцтва па гарадах і храмах Польшчы. Ён прыляціць самалётам з Рыма ў Гданьск, а назад вылеціць з Кракава — з аэрапорта, які носіць яго імя.**

Вернікі з Беларусі таксама будуць удзельнічаць у сустрэчах з Янам Паўлам II у трох гарадах, якія знаходзяцца паблізу нашых межаў. Першае спатканне адбудзецца ў г.Элк у паўночна-ўсходняй Польшчы, што не так далёка ад Гродна. Наступныя два — у г.Седльцэ і Драгічыне, што непадалёк ад Брэста. З Гродзеншчыны ў Элк пажадала паехаць больш за паўтары тысячы чалавек.

Польшчу. Ён таксама наведаў большасць краінаў былога сацыялістычнага блока ва ўсходняй Еўропе, апроч Беларусі, Украіны, Расіі і Малдовы. Нават кубінскі дыктатар Ф.Кастра прымаў Рымскага Папу, дзякуючы чаму палітычныя вязні атрымалі некаторыя палёгкі. Летась каталіцкія ўлады Беларусі запрасілі Яна Паўла II наведаць нашую краіну, аднак афіцыйнага запрашэння ад дзяржаўных уладаў не было.



13 чэрвеня Ян Павел II у цэнтры Варшавы каля магілы невядомага жаўнера правядзе ўрачыстае набажэнства, на якім да ліку святых пакутнікаў будуць далучаныя 108 святароў. Яны прынялі пакутніцкую смерць на тэрыторыі Польшчы ў яе даваенных межах. Сярод іх 8 ксяндзоў з Беларусі, што загінулі ад рук гестапа. Да іх далучаная таксама простая вясковая жанчына з-пад Гродна, якая прыняла смерць, ратуючы сваю цяжарную нявестку. Яна папрасіла фашыстаў, каб яе расстралялі замест будучай маці.

У якасці кіраўніка каталіцкага касцёла Ян Павел II ужо восьмы раз наведвае сваю радзіму —

У Польшчы прымаюцца надзвычайныя меры перасцярогі на час візіту кіраўніка Ватыкана. Усіх паломнікаў загадзя інструктуюць, што пры сабе нельга будзе мець парасоны альбо цяжкія рэчы, нават шкляныя бутэлькі. Ваду дазваляецца браць толькі ў пластыкавых, прычым не больш як у паўлітровых. Забараняецца кідаць кветкі на асфальт перад машынай Папы або імкнуцца ўручыць букет яму асабіста. Дарэчы, доступ вернікаў у сектары для гледачоў будзе спыняцца за дзве гадзіны да сустрэчы з высокім госцем, і ўвесь гэты час ніхто не зможа выйсці вонкі. ■

**МЕРКАВАННІ**

# Спойванне

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Бутэлька гарэлкі каштуе ў Беларусі крыху больш за паўдолара. Такіх нізкіх коштаў на «саракаградусную» вы не знойдзеце ні ў аднoй краіне Еўропы. Больш таго, у апошнія гады Беларусь імкліва пачала выходзіць у сусветныя лідэры па спажыванні алкаголю на душу насельніцтва.**

Яскравым прыкладам у гэтым плане з'яўляецца той факт, што ў 1993 годзе адна бутэлька гарэлкі раўнялася па кошце дзесяці-дванаццаці бутэлькам піва. І не таму, што піва было занадта таннае, а таму, што гарэлка сапраўды каштавала немалыя грошы. Цяпер «курс» -- адна да трох. Гэта робіць прадукт настолькі агульнадаступным, што набыць яго можа і дванаццацігадовы хлопчык, дзве дні паэканоміўшы на школьных абедах.

Што гэта? Хіба ўлада не вядзе амаль афіцыйную палітыку спойвання нацыі, а найбольш — маладой яе часткі? У розумах цяперашніх васемнаццацігадовых ужо склаўся жудасны стэрэатып, згодна з якім цвярозаму ні на дыскатэцы, ні на канцэрце рабіць проста няма чаго. Нецікава, маўляў, быць аднаму цвярозаму сярод усіх. А так і ўражанні абвастраюцца, і эмоцыі плешчуць цераз край, і дзяўчаты становяцца больш даступнымі...

У інтэрв'ю на Беларускім тэлебачанні прэзідэнт Лукашэнка казаў, што ні ў аднаго з пацярпелых падчас трагедыі на Нямізе ў крыві не знойдзена слядоў алкаголю. Міністр унутраных справаў Сівакоў казаў адваротнае. Верыца хутчэй апошняму.

Па-першае, на мерапрыемствах, якія носяць назву «піўны фестываль», піва разліваюць спачатку за цыгарэтныя пачкі, а пасля ўвогуле «на халяву». Знайсці там абсалютна цвярозых маладых людзей амаль немагчыма, бо працэнт іх занадта малы. Я сам нярэдкі ўдзельнік падобных мерапрыемстваў, па вопыце ведаю, што навучэнцы сярэдніх спецыяльных навучальных установаў і студэнты ідуць на такія фэсты ўжо на добрым падпітку, ужываючы зачастую не толькі і не столькі піва, колькі гарэлку.

«І калі ты цвярозы, тады ты дурны». Гэты радок з песні гурта «Новае неба» становяцца лозунгам краіны, дзе п'янства абгрунтоўваюць усім, чым заўгодна: сумна ці весела, дзень нараджэння ці пахаванне, безвыходнасць ці поўнае дасягненне ўсіх мэтаў. Абгрунтоўваюць нават тым, што, маўляў, у нас дэмакратыя, і кожны робіць, што хоча. Калі за святочным сталом ты адмаўляешся ўжываць спіртное, са шчырым спачуваннем пытаюць: «Ты што, хворы?..»

Так і 30 траўня. Са словаў некаторых сведак трагедыі, калі ў пераходзе ўжо пачыналася агульная даўка, калі першыя ахвяры ўжо ўпалі пад абцасы натоўпу, распаленыя спіртным і стыхіяй падлеткі проста для забаўы з разбегу ўразаліся ў натоўп і ціскам зверху вымушалі астатніх націскаць на людзей, што сталі перад імі.

Яны не думалі, што праз хвіліну сам апынуцца на мяжы жыцця і смерці. Яны не маглі думаць, яны былі ўсе ў эмоцыях, а розум проста ўжо не працаваў з-за ўжытага спіртнога.

Пры відзе крыві і першасным разуменні сітуацыі натоўп пачала ахопліваць паніка. І вось тут жывёльны выратавальны інстынкт падавіў усё чалавечае, і мэта вырвацца з «пераходнага пекла» перамагала ўсё. Больш моцныя пракладвалі сабе шлях наверх проста па целах астатніх, больш слабых. Яны не думалі аб тым, што, магчыма, зараз чаравікамі забіваюць сваіх аднагодкаў, з якімі паўгадзіны таму разам стаялі ў чарзе па халяўнае піва. Яны зноў такі не маглі думаць.

Я не хачу вінаваціць нікога. Ні гэтых маладых людзей, якія зараз з белымі тварамі плачуць на прыступках пераходу, ні гандляроў спіртным, якія сабе ў выгаду прадаюць напоі непаўналетнім грамадзянам. Яны не вінаватыя, яны — проста ахвяры палітыкі алкагольнага генацыду дзяржавы да свайго народа, да сваёй нацыі.

Такі шырокі гандаль танным спіртным не проста вельмі выгадны дзяржаве эканамічна, ён яшчэ і спрыяе таму, каб людзі адвучваліся думаць. Напіцца і забыцца — куды лягчэй. І для людзей, і для дзяржавы. ■

**Каардынацыйная Рада Дэмакратычных Сілаў**
падзяляе смутак усіх родных і блізкіх ахвяраў трагедыі на Нямізе і выказвае ім глыбокае шчырае спачуванне.

Ни с чем не сравнимо горе родных и близких, потерявших в этой давке своих детей, так и не успевших познать жизнь и ее действительность.
Невосполнимо горе и тех, кто в тот же вечер потерял отцов и матерей, так и не дошедших к своим семьям. Еще тяжелее эта утрата сейчас, в эти весенние дни, когда не только сама природа, а и все живое набирает силу и тянется к солнцу. Нет таких слов, которые утешили бы матерей и отцов, жен и мужей, осушили бы слезы детей.
Скорблю и низко склоняю голову в память о погибших.
Этот день для народа Беларуси должен стать днем всенародной скорби, забывать который нельзя.
**Михаил ЧИГИРЬ**

**Управа Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»**
Ад сябе і замежных беларускіх арганізацыяў выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім пацярпелых у выніку трагічнага здарэння на станцыі метро «Няміга» ў Мінску.

**Спачуванні**
З вялікім болем даведаліся ўсе мы аб няшчасці на святкаванні ўгодкаў радыёстанцыі «Мір» у Мінску. Страта 52-х маладых жыццяў — гэта трагедыя для ўсяго нашага народа.
Да таго ж яна поўнасцю бессэнсоўная.
Ад імя сябраў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, выказваю спачуванні сем'ям і прыяцелям тых, хто загінуў. Хай Бог вам памагае перажыць гэтае няшчасце.
Думкамі мы з вамі.
**Івонка СУРВІЛА, старшыня Рады БНР**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 555 Нумар падпісаны ў друк 03/06/99 (15:00) Наклад — 21.100